# Веcтki й Паведамленьнi

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: ***e-krama.com, pahonia.com***
Электронны адрас: ***viestki@mail.com***
✉ ***P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735***

**№ 10 (620)**
**Кастрычнік 2017 г.**


## Аб галоўным



Пад удар падстаўлена наша дзяржаўная незалежнасьць. Падзеі, якіх асьцерагаліся разумныя людзі, жывучы пад хамскім антынацыянальным рэжымам, – наблізіліся. Пачаўся вайсковы экспэрымэнт гібрыднай акупацыі Беларусі з боку Расеі. Адна з мэтаў – міжнароднае прыніжэньне нашай краіны, паказ яе несамастойнасьці – расейцамі ўжо дасягнута. Асноўная задача манэўраў “Захад 2017” – стварэньне расейскага ваенна-стратэгічнага пляцдарму на тэрыторыі Беларусі (што будзе азначаць акупацыю краіны). Вырашэньне гэтай задачы ў Масквы яшчэ наперадзе і залежыць ад многіх чыньнікаў. Найперш ад паводзінаў беларускага грамадзтва.

Некалькі абавязковых дзеяньняў, якія цяпер мусяць быць.

Найперш усім патрыётам трэба рыхтавацца да збройнага супраціву акупантам. Гэта значыць рыхтаваць сродкі супраціву, ствараць групы абароны. Улічыць, што антыбеларускі рэжым улады ў верхавіне сваёй і шмат дзе на месцах будзе на баку акупантаў.

***заканчэньне на бачыне 3***

## Выйшаў у сьвет літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа “БЕЛАРУС” за 2017 год




Сёлета ў рэкордным па памеры і адзінаццатым ад часу заснаваньня нумары сабраныя творы 29 беларускіх літаратараў замежжа, што жывуць у 10 краінах сьвету. Ёсьць сярод іх вядомыя пісьменьнікі і паэты, але ёсьць і пачаткоўцы, чые імёны пакуль мала вядомыя шырокаму колу чытачоў.

**Прэзэнтацыя** новага нумару **“БЕЛАРУСА”** заплянаваная на лістападаўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”, які адбудзецца **4 лістапада 2017 году** на Мангэтане ў Доме Маракоў па адрасу:

***123 East 15th Street, New York, NY 10003.***

На імпрэзу прыйдуць выдаўцы і шмат хто з аўтараў выданьня, прысутныя змогуць пазнаёміцца зь імі, задаць пытаньні, атрымаць аўтографы і набыць новы нумар альманаха па зьніжанаму адмыслова для прэзэнтацыі кошту.

**Калі ласка, падтрымайце аўтараў і выдаўцоў сваімі замовамі і зацікаўленасьцю!**

Даведацца больш інфармацыі пра новы нумар і замовіць яго можна наведаўшы ў сусьветным сеціве старонку **e-krama.com.** Аплату на сайце можна зрабіць крэдытнаю ці банкаўскаю карткаю альба праз рахунак ***Paypal***.

Замовы таксама можна дасылаць поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735 USA***

Кошт сёлетняга нумару з дасылкаю ў межах ЗША **$17**, з дасылкаю ў Канаду, Вялікабрытанію і Францыю **$20**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$22**. Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя рэдактара і выдаўца ***Marat Klakotski.***

На сайце можна зрабіць ахвяраваньне на выданьне наступнага нумару, выхад якога заплянаваны на восень наступнага году. Усе дабрадзеі заўсёды першымі атрымліваюць асобнік альманаха адразу пасьля выхаду з друку, а іхныя імёны будуць узгаданыя ва ўступным артыкуле.

Тыя з нашых суродзічаў, хто маюць літаратурныя здольнасьці, на сайце могуць пазнаёміцца з умовамі друку альманаха і падтрымаць ягонае выданьне сваім удзелам у наступным годзе.

З пытаньнямі зьвяртайцеся, калі ласка, на электронны адрас: ***zamova@e-krama.com***



# Верасьнёўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

9 верасьня 2017 году ў Цэнтральным парку на Мангэтане прайшоў чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка прывітаў прысутных і абвесьціў парадак дня сходу. Ён затым спыніўся на передгісторыі Дня Беларускай Вайсковай Славы, які сьвяткаваўся напярэдадні, 8 верасьня. Прамоўца распавёў пра бітву пад Воршай 8 верасьня 1514 году, у гонар якой на 8 верасьня прызначаны Дзень Беларускай Вайсковай Славы.

Сп. В. Зайка паспрабаваў накрэсьліць шырокі ток гістарычных падзеяў, якія прывялі да слаўнай бітвы пад Воршай, і пачаў ад часоў стварэньня Вялікага Княства Літоўскага. “Ад самага раньняга часу Маскоўшчына, перш, як васальнае Ардзе княства, а пазьней, як экспансіянісцкая дзяржава-канкурэнт і прэтэндэнт на ўсходнеславянскія землі т. зв. Кіеўскай Русі, была адным з асноўных ворагаў Вялікага Княства. На працягу шэрагу стагодзьдзяў на літоўска-маскоўскай мяжы не было спакойна, перш удача спрыяла Літоўска-Беларускай дзяржаве, шэраг усходнеславянскіх тэрыторыяў быў далучаныя да яе, асабліва ў часы Альгерда і Вітаўта. Затым, калі Маскоўскае княства пачало набіраць больш моцы, яно стала рэгулярна пачынаць войны супраць Вялікага Княства Літоўскага, часта парушаючы ўмовы папярэдніх мірных дамоваў. Эпізодам адной з такіх войнаў супраць Масковіі стала і славутая бітва пад Воршай 1514 году.

У жніўні 1514 году маскоўскае войска колькасьцю каля 80 тысяч пешых і конных жаўнераў, возчыкаў і абслугі, перайшло праз Дняпро і рушыла на Воршу і Друцк, але передавыя аддзелы яго былі адбітыя, і яно мусіла перагрупавацца і адступіла на левы бераг Дняпра каля Воршы. Бітва пачалася атакай войска Вялікага Княства Літоўскага начале з найвышэйшым гэтманам (галоўнакамандуючым), князем Канстанцінам Астрожскім. Колькасьць ягонага войска была значна меншай за маскоўскую і складала 30 тысяч вояроў. Пасьля працяглага змаганьня гэтман Астрожскі вымусіў маскоўскую коньніцу атакаваць пазыцыі, на якіх былі схаваныя гарматы. У выніку гэтага асноўная ўдарная сіла маскоўцаў была зьнішчаная, а дзякуючы флянгаваму манэўру, рэшта маскоўскіх сілаў была расьсечаная на драбнейшыя часткі, і яны пацярпелі паразу. Было забіта, паранена і патанула каля 40 тысяч маскоўскіх жаўнераў, толькі невялікай частцы ўдалося ўцячы. Некалькі дзясяткаў тысяч трапілі ў палон. Гэта была вялікая перамога. Кароль і вялікі князь Жыгімонт I Стары разаслаў вестку пра перамогу па дыпляматычных каналах, і ў выніку габзбурскі імпэратар адмовіўся ад саюзу з Масковіяй і тым аслабіў яе пазыцыі. Вайна аднак не была скончаная, і на яе працяг паўплывалі ўзгодненыя дзеяньні Масковіі, Тэўтонскага ордэну й Крымскага ханства супраць Вялікага Княства. Але вайсковая слава старажытнабеларускіх ваяроў прагучэла далёка за межамі Беларусі.

Далей былі іншыя войны, час міру звычайна не перавышаў 20-40 год. У выніку маскоўскай вайны супраць Рэчы Паспалітай 1654-1667 гадоў насельніцтва Беларусі скарацілася ў больш як 2 разы, а ў выніку Паўночнай вайны, калі расейскі цар Пётар шукаў выхаду да Балтыйскага мора, ад вайсковых дзеяньняў і спадарожных ім эпідміяў загінула каля траціны насельніцтва Беларусі.

Таму калі прагледзець усю беларускую гісторыю, якую савецкія і лукашэнкаўскія гісторыкі прадстаўляюць як “векавую прагу злучэньня зь вялікім рускім народам”, дык можна адзначыць, што менавіта гэты “вялікі рускі народ”, ці дакладней ягоная дзяржава і войска, былі найгалаўнейшымі ворагамі нашых продкаў, жыхароў Вялікага Княства Літоўскага, праз стагодзьдзі.

Затым прамоўца спыніўся на гісторыі ўзьнікненьня сьвята Дня Беларускай Вайсковай Славы, калі беларускія патрыёты замацавалі напачатку 1990-х гадоў менавіта за датай 8 верасьня, датай Аршанскай бітвы, дзень адзначэньня сьвята беларускага войска, у супрацьвагу савецкаму сьвяту 23 лютага. Дзень Беларускай Вайсковай Славы шырака сьвяткаваўся ў першыя гады беларускай незалежнасьці, але з прыходам да ўлады ў 1994 г. антыбеларускіх сілаў пачаліся перасьледы й разгоны падчас публічных маніфэстацыяў на 8 верасьня. Безумоўна, у вызваленай, новай Беларусі дата 8 верасьня зойме пачэсны і належны пасад сярод дзяржаўных беларускіх сьвятаў.

Пасьля сп. В. Зайка спыніўся на 500-годзьдзі беларускага кнігадруку і выдавецкай дзейнасьці Францішка Скарыны. Ён нагадаў, што ўсьлед за першай кнігай Бібліі, Псалтырам, перакладзенай на старабеларускі варыянт царкоўнаславянскай мовы 6 жніўня 1517 году, другая кніга выйшла празь месяц – 10 верасьня 1517 году. Гэта была Кніга Іёва. Цікава, што Скарына пры выданьні трымаўся не кананічнага парадку Біблійных кнігаў, але ўважаў на вартасьць і карысьць дадзенай кнігі ў мэтах выхаваўчых і адукацыйных. Калі Псалтыр быў карыстаны для навучаньня пісьмовасьці і для ўласнага малітоўнага ўжытку, дык Кніга Іёў – высокамастацкая, з глыбокім тэалягічным і мастацкім падтэкстам, што давала насычаньне для душы людзям ужо аграўшым пісьмовасьць і пачаткі адукацыі. У кожным разе выхад кожнай кнігі Скарыны і яе юбілей – годнае і вартае адзначаньня сьвята.

Пасьля прагучэлі аб’явы і паведамленьні, сп. В. Зайка упершыню па просьбе прысутных спыніўся на мэтах і кшталтах дзейнасьці Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”.

Прысутныя пасьля мелі нагоду калегавацца – знаёміца і абменьвацца інфармацыяй.

**Віталь ЗАЙКА**



# Новая кніга: “Выбранае” Ўладзімера Самойлы




Узаснаванай сёлета Згуртаваньнем беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” сумесна зь Беларускім дзяржаўным архівам-музэем літаратуры й мастацтва ды Беларускім інстытутам навукі й мастацтва (Нью-Ёрк) падсэрыі “Спадчына: агледзіны” кніжнай сэрыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” пабачыла сьвет другая па ліку кніга – “Выбранае” Ўладзімера Самойлы. Спадчына літаратуразнаўцы, грамадзкага дзеяча, бібліятэкара Беларускага музэя імя Івана Луцкевіча ў Вільні ўпершыню выйшла ў кніжным фармаце.

Аснову выданьня склалі рэцэнзіі Ўладзімера Самойлы на зборнікі Янкі Купалы, Натальлі Арсеньневай, Казіміра Сваяка, творы Язэпа Драздовіча, Францішка Аляхновіча, часопіс “Крывіч”, а таксама філязофскае эсэ “Гэтым пераможаш”, публікацыі, прысьвечаныя асэнсаваньню праблемаў нацыянальнага разьвіцьця беларусаў, нацыянальнай памяці, нацыянальнай царквы. Тэксты Ўладзімера Самойлы, напісаныя ў 1920-х – 1930-х гг., надзвычай актуальна чытаюцца сёньня. Яны важныя й філязофскім асэнсаваньнем шляху беларускай нацыі, і як узоры ўдумлівых і густоўных рэцэнзіяў на літаратурныя творы.

Асобным разьдзелам у кнізе прысутнічае ліставаньне Ўладзімера Самойлы, якое склалі лісты да Браніслава Эпімаха-Шыпілы, Уладзіслава Талочкі, Клаўдзія Дуж-Душэўскага і інш. У іх адлюстраваныя абставіны жыцьця й погляды дзеяча на падзеі ў грамадзкім і культурным жыцьці свайго часу.

Жыцьцё й спадчыну Ўладзімера Самойлы 30 гадоў таму вывучалі дасьледчыкі ў розных краінах: Уладзімер Конан (Беларусь), Аляксандра Бэргман (Польшча), Станіслаў Станкевіч (ЗША). Іх артыкулы, зьмешчаныя як у выглядзе біяграфічнай прадмовы (“Прарок у сваёй Айчыне” У. Конана), гэтак і ў адмысловым разьдзеле “Пра Уладзіміра Самойлу”, дазваляюць чытачам убачыць жыцьцёвы і творчы шлях віленскага беларуса. Дадае дэталяў да ўяўленьняў пра Ўладзімера Самойлу як пра чалавека інтэрвію зь ягоным сынам Уладзімерам Самойлам-малодшым, запісанае Аляксандрай Бэргман у 1982 годзе.

Як і ў выпадку з папярэдняй кнігай падсэрыі, “Выбраным” Тамаша Грыба, укладальнікі Натальля Гардзіенка й Лявон Юрэвіч ня мелі на мэце сабраць у адным томе ўсю творчую й архіўную спадчыну Ўладзімера Самойлы. Ён пісаў таксама на расейскай, польскай, нямецкай мовах, і творы раскіданыя па розных пэрыёдыках, а дакумэнты па архівах некалькіх краінаў – чакаюць сваіх дасьледчыкаў.

У “Выбраным” Уладзімера Самойлы прадстаўленыя найбольш яскравыя й характэрныя тэксты, што дазваляюць убачыць ягоную творчасьць і асобу з розных бакоў. Гэты зборнік мае стаць важнаю падзеяю ў вяртаньні імя дзеяча ў беларускую інтэлектуальную прастору ды добрай падставай для новага асэнсаваньня ягонай творчай спадчыны.

***Натальля ГАРДЗІЕНКА***

## Аб галоўным

***заканчэньне з бачыны 1***

Другое. Ня слухаць не прымаць на веру ніякіх меркаваньняў так званых “аналітыкаў”, ні заходніх, ні ўсходніх, ні “сваіх” (пазьбягайце зацямненьня мазгоў). Ідзе інфармацыйная вайна супраць Беларусі і Ўкраіны. Беларусы непадрыхтаваныя нават да разуменьня такой вайны. Таму кіравацца трэба нормамі права, патрыятызмам, сумленьнем і здаровым сэнсам. Здаровы сэнс сьведчыць, што на нашу тэрыторыю, карыстаючыся адсутнасьцю мяжы і дзякуючы здрадніцкай палітыцы антыбеларускай улады, зайшлі ўзброеныя чужыя войскі, умешваюцца ў нашыя справы, хапаюць беларускіх грамадзян. Сувэрэнітэт парушаны. Канстытуцыйны абавязак грамадзяніна Беларусі – бараніць краіну, яе тэрыторыю і незалежнасьць.

Усялякія дэмагагічныя разважаньні непрыяцеляў аб так званай “саюзнай дзяржаве”, аб дамове з нелегітымным рэжымам ёсьць з праўнага боку нікчэмныя і не павінны прымацца пад увагу.

Дэ факта ёсьць толькі адзін аргумэнт, які можна ўлічыць. Гэта шматкроць засьведчанае абяцаньне здрадніцкага рэжыму і хаўрусьніка Масквы аб тым, што да 30-га верасьня расейскія войскі будуць выдаленыя зь Беларусі і ў нашай краіне не застанецца ніводнага маскоўскага ўзброенага салдата.

Даваряць гэтым абяцаньням нельга, бо яго вымаўляюць людзі бяз гонару, якія да гэтага часу не міргаючы вокам, кажуць, што на Данбасе расейскага войска “нет”.

Калі расейскае войска і ваенная тэхніка застануцца на нашай тэрыторыі, то лёгіка тут простая: альбо супраціў і вайна – альбо згода з акупацыяй, страта сувэрэнітэту, рабства і подлае існаваньне.

Цяжкасьць можа стацца ў тым, што ў рэальнасьці і рабства і супраціў будуць існаваць адначасна.

На сёньняшні дзень усім разумным беларусам трэба ўсьвядоміць катэгарычную праўду: палітычны вынік расейскіх манэўраў “Захад-2017” на Беларусі будзе залежыць ад паводзінаў беларускага грамадзтва, ад ягонай актыўнасьці, сур’ёзнасьці і ступені супраціву. У чарговы раз у беларусаў узьнікае магчымасьць самым вырашыць вынік падзей і зьберагчы будучыню нацыі.

Заўвага аб інфармацыйнай вайне. (Паўтару тое, што ўжо прыходзілася казаць.)

Трэба тэрмінова і рэзка спыніць усялякае ёрніцтва ды камэдыянцтва з фантомам Вэйшнорыя. Нельга падыгрываць ворагам. Маскі прырастаюць да твару. Складваецца ўражаньне, што тон задае агентура, і неадукаваныя людзі не разумеюць, што робяць. Масква зрабіла ін’екцыю, увяла бацылу падзелу грамадзтва. У любой форме нельга яе вырошчваць.

Патрэбная канцэнтрацыя розумаў і дзеяньняў на сур’ёзных праблемах гібрыднай вайны Расеі супраць Беларусі і сьвету, на пагрозе страты краіны. Цяпер ня час і ня месца для пэрформэнсаў. Пажартавалі – і хопіць. Наперадзе высьпявае вайна. Масква ня спыніцца, нават калі сапраўды часова вывядзе свае войска зь Беларусі.

Цяпер трэба засяродзіцца на галоўным – на супраціве гібрыднай акупацыі і на абароне краіны.

*17 верасьня 2017 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Ні рыба, ні мяса

Ніяк не забуду размову зь беларускім вэганам з “анастасіеўскага” экапасяленьня пад Віцебскам. Ён мне апантана расказваў пра тое, што харчуецца амаль выключна гарэхамі і яблыкамі і пры гэтым выдатна сябе адчувае. Але выглядаў ён адназначна нездаровым: высахлая постаць, зялёны твар, запалыя вочы, мутны погляд.

На захадзе пануе пэўная мода, якая пачалася з вэгетарыянства і перайшла ў вэганства, зялёнае сыраедства і іншыя радыкальнейшыя формы. Адкрываюцца ўсё новыя бары і рэстарацыі, дзе замест мяса прапануюць боб, фасолю і іншую крапіву. Тут і там праходзяць цэлыя дэманстрацыі за правы жывёлаў. Зялёная, несасьпелая частка чалавецтва заклікае адмовіцца ад мяса і цалкам перайсьці на расьлінныя прадукты. З успышкаю новай радыкальнай хвалі палітычных філязофіяў мы, напэўна, даведаемся, што расьліны таксама адчуваюць боль і ў выніку ў будучыні, можна меркаваць, нам прапануюць харчавацца нейкай масай не жывёльнага і не расьліннага паходжаньня. Карацей кажучы, будзем жэрці камяні.




А вэгетарыянства, дарэчы, зьява зусім ня новая. Яно было вельмі папулярным ў дарэвалюцыйнай... Маскве, дзе дзейнічала “Маскоўскае вэгетарыянскае таварыства”. Там жа выйшла першая вэгетарыянская кухарская кніжка “Я нікога ня ем”, а ідэі шырока распаўсюдзіліся сярод адукаванай моладзі, студэнтаў і інтэлігенцыі – вам гэта ніякі іншы час не нагадвае? Ну... а пасьля прыйшла рэвалюцыя, якая гэтае дзівацтва, як на той складаны эканамічна час, нефармальна забараніла, а на практыцы ўвяла ў рэальнае жыцьцё, прымусіўшы мільёны людзей галадаць і паміраць ад нястачы ня толькі мяса, але і любой ежы.

Рэвалюцыя штодзённасьці – рэвалюцыя нашага часу багацейшая за тую, больш буржуазна-інтэлектуальная, менш пралетарская. Яна зрабіла вэгетарыянства, вэганства і іншыя модныя зьявы часткаю сваёй ідэалёгіі, падняла іх на штандары. Вэгетарыянства тут ужо выступае як дадатак да культурніцкай парадыгмы. Згодна з тэорыяй ураўнаважанага разьвіцьця, чалавек – гэта ўжо не найвышэйшая істота, а найбольшы шкоднік на плянэце. Філязоф Пітэр Сінгэр праз установы вышэйшай адукацыі вяшчае, што чалавек ніякім чынам не вышэй за астатніх жывёлаў, і агітуе за вызваленьне апошніх. Пэўна, усё скончыцца як у Оруэла ў “1984” ці ў “Ферме”, адно з двух.

Усе гэтыя радыкальныя тэндэнцыі робяцца ўсё больш небясьпечнымі і ўсё больш ўсёабдымнымі. Застаецца спадзявацца на амэрыканцаў. Я дык ніяк не магу сабе ўявіць, што шараговы тэхасец так проста, без страляніны, возьме і адмовіцца ад ягонага “pulled pork”. А калі “зялёныя чалавечкі” ў чарговы раз будуць атакаваць вас сваімі ідэалягемамі, адкажыце ім удалым мемам: “Калі вэгетарыянцы так любяць жывёлаў, то чаму яны зьядаюць усю іхную ежу?”

**Віталь ВОРАНАЎ**

**Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:**

Я. Багдзевіч ..............60
А. Мілашэўскі ............60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”** *Viktar Yedzinovich.*

*Паважаныя **М. Дзікун, Ю. і І. Валковіч, С. Скародзька, Я. Стэцко, Ю. Шкода**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

# Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **14-га кастрычніка 2017 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца на сайце **pahonia.com***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

Я. Кацярыніч ............30
А. Курушка ................30
А. Мілашэўскі ............30
А. Солад ....................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпіску на бюлетэнь таксама можна аформіць наведаўшы сайт **www.e-krama.com***

*Рэдакцыя бясплатна надрукуе прыватныя абвесткі і будзе ўдзячная за дасланыя артыкулы, водгукі й лісты.*